


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 лістапада 2003 года

№ 46 (447)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

плюс Тэлетыдзень


## Навіны рэгіёну

### Загінулі людзі

ВІЛЕЙКА. У ноч на 13 лістапада здарыўся пажар у вёсцы Дварэц, Хаценчыцкага сельсавета. Гаспадар, 1950 года нараджэння і яго жонка, загінулі. Прычынай пажару стала курэнне ў ложку.

**Марына СЛІЖ.**

### У шэфах – «Камароўка»

МЯДЗЕЛ. У былога калгаса "Бальшавік" (цяпер СВК "Вузлянка") з'явіліся шэфы са сталіцы – прадпрыемства "Мінскі Камароўскі рынак". Ужо складзены бізнес-план, згодна з якім "Камароўка" будзе дапамагаць вяскоўцам.

**Аддзел інфармацыі "РГ"**

### Больш тэлефонаў

АШМЯНЫ. На 50 нумароў распшырылася АТС у Барунах. Ужо 200 жыхароў Барунскага сельсавета змогуць карыстацца такім дасягненнем цывілізацыі, як тэлефон. Цяпер раённы вузел электрычнай сувязі апытвае жыхароў вёскі Муравана-Ашмянка, каб высветліць каму з іх патрэбны тэлефон.

**Святлана ЦІШКО.**

### Ад тэорыі да практыкі

СМАРГОНЬ. У швейнай майстэрні для інвалідаў, якая працуе ў тэрытарыльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання на даму "Цёплы дом", з'явіліся 4 швейныя машынкі. Іх перадала мінская грамадская арганізацыя "Сафія". Раней смаргонцы вучыліся шыць толькі тэарэтычна, цяпер перайшлі да практыкі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пройдзе канцэрт

АСТРАВЕЦ. Канцэрт самадзейнага кампазітара і выкладчыцы Аляксандра Альховіка і настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Варнянскай СШ Людмілы Кухарэвіч адбудзецца 16 лістапада ў кінатэатры "Кастрычнік" а 16-й гадзіне. Частка грошай ад канцэрта будзе накіраваная на закупку абсталявання для Астравецкага дзіцяча-юнацкага цэнтра.

**Святлана ЦІШКО.**

### Нюх на золата

ВАЛОЖЫН. Тры крадзяжы зарэгістравалі супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў на тэрыторыі раёна за два тыдні. Залатых рэчаў, долараў, рублёў і еўра, прыхаваных на "чорны" дзень, недалічыліся жыхары вёсак Сугвазды, Гілікі, Доры. Ва ўсіх трох выпадках у вёсках бачылі цыганоў.

**Марына СЛІЖ.**

# Чакаем страусятаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Страусы, якія гадуюцца на Маладзечанскай птушкафабрыцы ў Алёхнавічах, чакаюць страусянятаў.**

Першую парачку Сіднэя і Снягурку прывёз на фабрыку Георгій Пякарскі з–пад Ракава на Валожыншчыне. За імі ў вёсцы было цяжка і клапатна даглядаць. Яшчэ раней гэтыя птушкі аўстралійскай пароды эму жылі ў Краснадарскім краі.

Пасля з Валожыншчыны прыехалі Гоша і Сярожа, Сэм і Дзюймовачка і яшчэ двое малышоў. Пакуль яны без імёнаў. Жывуць у вальерах, у якіх раней гадаваліся індыкі. Па памерах пляцоўкі невялікія, з пяском на падлозе. У агароджы з дроту – дзіры, праз якія страусы высоўваюць галовы і ядуць. Альбо глядзяць праз верх агароджы за наваколльнымі. Паводзіны страусаў параўноўваюць з пеўнямі і курамі. Аўстралійскія самцы кідаюцца пяском.

Ёсць сумненні, ці правільна падзялілі экзатычных птушак на "хлопчыкаў і дзяўчынак". На птушкафабрыцы не ведаюць, дзе і як памацаць рукамі, каб пераканацца, што хутка будуць яйкі з будучымі страусянятамі. Па часе яны павінны быць. Страусіха можа стаць маці на трэці год жыцця. Менавіта ў такім узросце знаходзяцца зараз дзве птушкі.. У "дэкрэт" ідзе, а дакладней садзіцца на яйкі , бацька. Пры гэтым 44 дні нічога не п"е і не есць. Адно яйка важыць да паўтара кілаграма. Па вазе гэта прыкладна 25 курыных яек. Калі дзеткі трошкі падрастуць, да абавязкаў прыступае маці.



Птушніца Наталля Лісоўская з Маладзечанскай птушкафабрыкі ў Алёхнавічах побач са страўсам Гошам. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Па памерах страусяняты мала чым адрозніваюцца ад сваіх бацькоў. Толькі рухі не такія ўпэўненыя. І дарослыя і дзеці любяць гуляць з птушніцай Наталляй Лісоўскай, якая іх даглядае. Страусы адгукаюцца на яе голас грубым шыпеннем, страусіхі адказваюць пяшчотна. Ім прыйшоўся даспадобы Наталлін бліскучы наручны гадзіннік. Здыме яго, пакруціць перад птушкамі, яны і дзяўбуць. Дзяўчына і корміць страусаў з далоні. Нібы папугайчыка ў клетцы, толькі вельмі-вельмі вялікага.

Са страусіным кормам ёсць складанасці. Лепш для іх падыходзіць сена з канюшыны. Страусы прызвычаіліся да беларускіх буракоў, морквы, капусты. Таксама ядуць камбікорм. Страус спажывае яго менш, чым індык. Кормяць аўстралійскіх прыгажуноў тры разы на дзень.

З кліматам птушкам не пашанцавала. Халаднавата. Ім бы +18 градусаў замест +6. Напрадзе зіма. Напэўна, летам будзе лепш. Для страусіных прагулак адведзена спецыяльнае месца з дахам. Але, калі ўсё ж такі з'явяцца страусяняты, яго дакладна не хопіць. Прыйдзецца пашыраць.

**Ірына РАБУШКА.**

### Тут пануе водар лета



У музычным вучылішчы імя Агінскага адкрылася выстава мастакоў-выкладчыкаў Генадзя Селядца і Івана Смалякова.

2-я старонка

### Ахвяры дарогі



Аўтамабільная аварыя паблізу інфекцыйнай бальніцы паміж Маладзечнам і Вілейкай забрала жыцці пяці чалавек.

3-я старонка

### Падпішыся і выйграй



Вечар на двух у кафэ "Блюз", аўтамабільны акумулятар і іншыя прызы для падпісчыкаў «Рэгіянальнай газеты».

10-я старонка

■ ПОСТ ДАІ

# Трагічны дзень календара

**МАЛАДЗЕЧНА. Лабавое сутыкненне двух аўтамабіляў прынесла смерць пяцярым жыхарам Вілейкі і Мінска раніцай 7 лістапада. Яшчэ трое чалавек дастаўлены ў гарадскую бальніцу з рознымі траўмамі.**

Такое здарэнне, дзе ўлабавую сутыкаюцца аўтамабілі і гінуць людзі, на тэрыторыі Маладзечанскага раёна сёлета адбылося ўпершыню. Аб гэтым сказаў інспектар Маладзечанскага ДАІ **Уладзімір Лукашык.**

У 11.25 на пульт ДАІ паступіла паведамленне аб трагедыі паблізу інфекцыйнай бальніцы. Дваццаціпяцігадовая доктар-стажор 3-й клінічнай бальніцы Мінска Аляксандра М., гаворыцца ў паведамленні ДАІ для "Рэгіянальнай газеты", едучы за рулём аўтамабіля "Хонда-Цывік", на 77-м кіламетры дарогі Мінск–Нарач (у 150 метрах у бок Вілейкі ад паварота на Сасновы Бор) пайшла на абгон "ВАЗ–2103" і выехала на паласу сустрэчнага руху. У выніку адболося лабавое сутыкненне з аўтамабілем "Фольксваген-транспарцёр", за рулём якога быў віляйчанін Міхаіл Г. Не пазбегнуў сутыкнення і Аляксей С., вадзіцель "ВАЗа". Вадзіцель "Хонды", яе маці 48 год, бабуля 73-х год, 17-гадовы стрыечны брат і мужчына 49 год загінулі на месцы. Вадзіцель "Фольксвагена" і двое яго пасажыраў атрымалі траўмы.

На думку работнікаў ДАІ, гэта адбылося з-за няправільна выбранай хуткасці і няўважлівасці вадзіцеля "Хонды".

«Сёння, канечне, цяжка меркаваць аб тым, чым кіравалася вадзіцель "Хонды", – кажа начальнік Маладзечанскага ДАІ **Уладзімір Балкоўскі.** – Усе мёртвыя. Але калі мы маем такі вынік, зразумела, рэжым руху абраны быў няправільна.

Пакуль рана гаварыць і аб выніках экспертызы на ўтрыманне ў крыві алкаголю, але па меркаванні службоўцаў ДАІ, яго не было. Пакуль няма і вынікаў экспертызы аб хуткасці аўтамабіляў.

Каля дзвюх гадзін руху на дарозе не было – яго перакрыла аўтаінспекцыя.

**Аўтадарога Мінск–Нарач на ўсім яе працяжэнні, кажа Уладзімір Лукашык, – самая небяспечная ў Маладзечанскім раёне. Але і на гэтай трасе ёсць свае самыя небяспечныя ўчасткі. Гэта кавалкі дарогі каля інфекцыйнай бальніцы, ля Крыніцы і Красоўшчыны.**



Мікрааўтобус "Фольксваген–Транспарцёр" і легкавушка "Хонда–Цывік" не змаглі раз"ехацца 7 лістапада паблізу інфекцыйнай бальніцы на дарозе Мінск –Нарач. Вынікам стала смерць пяці чалавек і сур'ёзныя траўмы яшчэ трох. На здымку: супрацоўнікі ДАІ Маладзечна высвятляюць абставіны здарэння. Фота Уладзіміра ЛУКАШЫКА.

Пачатак лістапада быў багатым і на іншыя дарожна–транспартныя здарэнні. Пад колы "Мэрседэса-190" трапіў слесар ААТ "Канфа" Барыс Г. Гэта адбылося 4 лістапада ў 17.40 на супраць дома №17 па вуліцы Францішка Скарыны. За рулём "Мэрседэса быў намеснік дырэктара ЗАТ "Еўрасорт" Ігар Б. Барыс Г. пераходзіў праезную частку дарогі. У выніку наезду пешаход атрымаў адкрыты пераломі галёнкі, закрыты пераломі ключыцы, атрымаў удар у лоб. Ступень вінаватасці кожнага з удзельнікаў гэтага ДТЗ высвятляе следства.

П'яны вадзіцель Сяргей Сергіевіч, кіруючы "Маздай–626", наехаў 7 лістапада ў 16.40 на адміністрацыйны будынак ДРБУ–195. Кампанію нецвярозаму вадзіцелю, які ехаў без вадзіцельскага пасведчання, склалі п'яныя беспрацоўныя маладзечанцы Пётр Вяршковіч, Іван Дземеш і Яніна Чэрнік. Найбольш пацярпела Яніна Чэрнік, якая, па паведамленні ДАІ, атрымала шмат пераломаў і трапіла ў траўматалагічнае аддзяленне бальніцы.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**




Найбольш небяспечныя ўчасткі аўтамабільных дарог (пазначаныя аваламі з клічнікамі) ў Маладзечанскім раёне знаходзяцца на трасе Мінск–Нарач. Гэта адрэзкі ля інфекцыйнай бальніцы, Крыніцы, Красоўшчыны.

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Панеслі долары ў абменнік

**Насельніцтва стала прадаваць валюты ў абменніках значна больш, чым летась.**

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, за тры кварталы 2003 года, у параўнанні з аналагічным перыядам 2002 года, аб'ём прапановы валюты насельніцтвам вырас на 62 працэнты — з 823 млн. да 1 млрд. 333,6 млн. долараў ЗША, ці з 3 млн. да 4,9 млн. долараў ЗША ў сярэднядзённым выражэнні. У той жа час попыт насельніцтва на валюту вырас на 18,9 працэнта, з 1 млрд. 192,2 млн. да 1 млрд. 417,2 млн. долараў ЗША, ці ў сярэднім за дзень — з 4,4 млн. да 5,2 млн. долараў ЗША.

У выніку апераджальнага павелічэння прапановы над попытам, чысты попыт насельніцтва на замежную валюту паменшыўся на 77,4 працэнта – з 369,2 млн. долараў ЗША за 9 месяцаў 2002 года да 83,6 млн. долараў ЗША ў 2003 годзе. У сярэднім за дзень чыстае сальда куплі валюты грамадзянамі за тры кварталы скарацілася з 1,4 млн. да 300 тыс. долараў ЗША.

У верасні 2003 года чыстая прапанова замежнай валюты з боку насельніцтва склала 2,3 млн. долараў, ці 100 тыс. у сярэднядзённым выражэнні, у той час як у жніўні была адваротная сітуацыя — чысты попыт склаў 27,8 млн. долараў ЗША, ці 900 тыс. у сярэднядзённым выражэнні. На думку спецыялістаў, гэта звязана з заканчэннем летняга сезона адпачынкаў, неабходнасцю павелічэння расходаў насельніцтва для падрыхтоўкі да восеньска-зімовага перыяду.

**Паводле БелаПАН.**




Беларусы сталі больш ахвотна купляць рублі. Фота ByMedia.Net.

## Курсы валют НБ РБ

| | 6.11 руб. | 13.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2132,00 | 2134,00 |
| Еўра | 2442,95 | 2471,17 |
| Злоты | 533,44 | 538,96 |
| Літ | 707,33 | 715,51 |
| Расійскі рубель | 71,51 | 71,59 |

«Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2130/2155 | 2135/2160 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 5.11 | 12.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13600 | 13600 |
| Сасіскі, 1 кг | 4600 | 4600 |
| Селядзец, 1 кг | 2750 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 850 | 850 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1350 | 1400 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 470 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 850 | 850 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 800 | 820 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 170 |
| Морква, 1 кг | 220 | 250 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 2000 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 1590 | 1700 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 450 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1150 |

## Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 800 | 800 |
| Смятана, 1 л | 2200 | 2100 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 4900 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

 



■ ПАРТРЭТ

# Жанчына-рэжысёр

**Паводле прызнання загадчыцы аддзела па арганізацыі вольнага часу (культурно-досуговой деятельности) Алены Сакалоўскай, яна, колькі сябе памятае, заўсёды была рэжысёрам. "У школе самі шылі касцюмы, пісалі сцэнарыі", – гаворыць яна. Пасля школы вучылася ў Гродзенскім вучылішчы мастацтваў па спецыяльнасці "рэжысура". Сёлета заканчвае 5-ы курс Беларускага універсітэта культуры па спецыяльнасці "рэжысёр".**



Загадчыца аддзела па арганізацыі вольнага часу Алена Сакалоўская (злева) узгадняе свае творчыя задумы з намеснікам дырэктара па культурна-масавай рабоце Галінай Акулёнак. Фота Святланы ЦІШКО.

Работнікі аддзела арганізацыі вольнага часу плануюць і праводзяць конкурсы (у тым ліку і прафесійнага майстэрства), вечары адпачынку, дыскатэкі, навагоднія "Агеньчыкі", юбілейныя вечарыны для прадпрыемстваў. Шоу-праграма цырульніцкага майстэрства, што мае адбыцца ў Маладзечне 25 лістапада, гэта таксама іх клопат. Па словах Алены Сакалоўскай, іх работа была б немагчымай без супрацоўніцтва з аддзелам мастацкай самадзейнасці і аддзелам па рабоце з дзецьмі і моладдзю.

Найбольш папулярныя сярод маладых наведвальнікаў палаца – дыскатэкі. Самой Алене Расціславаўне больш падабаецца іграць адмоўных казачных персанажаў і праводзіць гумарыстычныя капуснікі. "Люблю гумарыстычны жанр, — кажа яна. – Канцэрты сімфанічнай і класічнай музыкі людзям падабаюцца, але звычайна яны хочуць расслабіцца, таму з задавальненнем ходзяць на капуснікі".

У Маладзечна Алена Сакалоўская прыехала пяць гадоў таму. Першы час не магла знайсці работу, хаця да гэтага працавала рэжысёрам у Навагрудскім доме культуры. Але, як сама кажа, пашанцавала на добрых людзей, якія дапамаглі ўладкавацца ў новым горадзе, знайсці кватэру і месца працы. Усяго ў сферы культуры яна працуе ўжо гадоў 13. Часта даводзіцца заставацца на рэпетыцыях увечары, пасля 18.00. Калі ідуць навагоднія вечарыны, то ўвогуле вяртаецца дадому апоўначы. Два сыны Алены Сакалоўскай (12 і 15 гадоў) трохі стаміліся ад таго, што мама і днём і ўвечары на рабоце, і ў свята яна на сцэне іграе не Снягурку, а Кікімару ці Бабу Ягу.

**Святлана ЦІШКО.**

■ СЯМ'Я

## Як за сямю пячацямі

**Вы, напэўна, заўважалі, што дзіця ідзе не да ўсіх. Немаўляты яшчэ не ведаюць, пра добрых і дрэнных людзей, але адчуваюць іх па вібрацыях, якія ідуць ад сэрца, рук. У чужога чалавека на руках малы плача і не супакойваецца да таго часу, пакуль яго не возьме маці. Сардэчная сувязь такая вялікая да трох гадоў, што варта толькі малому пад прыглядам бабулі ўпасці, як маці адразу адчуе, дзе б яна ні была, — тут жа ускочыць, захвалюецца і ёй адразу ж захочацца патэлефанаваць ці пайсці дадому.**

А калі маці, якая корміць грудным малаком, незаслужана палаяць, дома адразу ж, без усякай на тое прычыны, заплача дзіця.

Вось так моцна мы звязаны з дзецьмі. Таму, калі праводзіце дзіця ў школу, у думках жадайце яму: "Мой дарагі, няхай табе будзе добра!". Калі ён затрымліваецца і не ідзе дадому, што даволі часта бывае з падлеткамі, то ў думках гаварыце яму: "Мой дарагі, ідзі дамоў, мы цябе чакаем і няхай з табой нічога не здарыцца!". Ваша думка будзе выконваць ахоўную ролю.

Ведайце, што ў вашых добрых і чыстых думках заўсёды ёсць выратаванне дзіцяці. Рабіце ўсё, каб ён любіў дом, імкнуўся ў яго на ўсіх сваіх шляхах, калі вырасце. Вучыце яго не асуджаць, не гаварыць дрэнных слоў, не лгаць, і ў яго ніколі не будуць балець зубы; не плакаць, не капрызіць, бо гэта сведчыць аб эгаізме, тады ў яго не будзе балець горла; не выказваць бурна сваіх эмоцый, не выплюхваць іх на навакольных, калі падрасце, — ён не будзе знаць страўнікава-кішачных расстройстваў і ныркавай колікі.

Вучыце не паступаць і не думаць бессардэчна, і яму не будзе вядомая сардэчная боль.

Любая хвароба – гэта пакаранне за нашую недасканаласць. Давайце вучыць дзяцей прыгажосці і імкненню быць лепшымі. І быць самім узорам для іх ва ўсім.

**Алена УРБАНОВІЧ.**

■ СІТУАЦЫЯ

## Мужчынаў трэба берагчы

**Мінскае гарадское ўпраўленне статыстыкі на аснове агульных статыстычных звестак падрыхтавала аналітычны матэрыял пра мінскіх мужчынаў.**

Згодна з імі, моцную палову чалавецтва трэба «шкадаваць і берагчы», бо яна складае 46,6 працэнта ад 1 млн. 726 тыс. чалавек насельніцтва сталіцы. Пры гэтым 18,3 працэнта мужчын — ва ўзросце да 18 гадоў, 70,5 працэнта — ад 18 да 60 гадоў, старэйшыя за 60 гадоў — 11,2 працэнта. Сярэдняя працягласць жыцця мінскіх мужчын 65,3 года (на 9 гадоў менш, чым у жанчын), у той час як у ЗША і Вялікабрытаніі гэты паказчык роўны 75 гадам. Акрамя таго, мужчыны схільныя да больш высокай смяротнасці як у раннім, так і ў працаздольным узросце.

Як правіла, у Мінску на 100 дзяўчынак нараджаецца 106—109 хлопчыкаў, аднак да 24 гадоў наступае стойкая перавага жаночага насельніцтва. Што да занятасці, то больш чым 60 працэнтаў мужчын працуюць на службовых працоўных месцах, а ў параўнанні з 1995 годам колькасць мужчын, занятых фізічнай працай паменшылася на 10 працэнтаў.

У сталіцы па-ранейшаму назіраецца натуральнае памяншэнне насельніцтва, г.зн. колькасць нованароджаных не папаўняе натуральныя страты насельніцтва. Так, за студзень—жнівень гэтага года ў горадзе нарадзіліся 10 тыс. 336 дзяцей (на 1 працэнт больш, чым летась), а памерлі — 10 тыс. 721 чалавек (на 5 працэнтаў менш, чым летась).

**Лавінія АРЭШКА, БелаПАН.**

■ ЗАХАПЛЕННІ

# Мясцовы мадэльер

**СМАРГОНЬ. "Я з дзяцінства марыла быць прафесійным мадэльерам", — прызналася ў гутарцы звычайная (толькі на першы погляд) жыхарка нашага горада Ала Загорская. На самой справе Ала – незвычайная дзяўчына. Яна ўмела вяжа кручком і пруткамі, сама прыдумвае мадэлі, ды такія, што не знойдзеш нават у спецыялізаваным магазіне, таму што ўсе яны унікальныя. Яе мадэлі ўжо паспелі ацаніць спецыялісты. У трох нумарах "Ксюшы" (для тых, хто вяжа) былі апублікаваныя мадэлі Алы з іх падрабязным апісаннем. Даведаўшыся, што такая майстрыха жыве ў нашым горадзе, я тут жа дамовілася аб сустрэчы. Перш-наперш мне цікава было даведацца:**

**— Як у Мінску (у часопісе "Ксюша") даведаліся аб такой майстрысе з маленькага гарадка?**

— Усё вельмі проста: я вырашыла даказаць аднаму свайму знаёмаму, што мае мадэлі могуць трапіць у спецыялізаваны часопіс. Напісала ў рэдакцыю пісьмо і хутка атрымала адказ, а таксама запрашэнне на здымку маіх мадэляў.

**— Ала, прызнайцеся, колькі вы звязалі рэчаў?**

— Больш за 200, прычым я вяжу іх толькі для сябе. Ёсць і такія, якія я ніколі не адзявала. Звязала, паклала, калі-небудзь спатрэбіцца. І наогул, асноўная частка майго гардэробу – гэта рэчы, сшытыя ці звязаныя ўласнымі рукамі.

**— Якім чынам з'яўляецца ваша новая мадэль? Доўга выношваецца ідэя ці, як кажуць, "усё разам і адразу"?**

— Як толькі я бачу ніткі, тут жа ўяўляю сваю новую мадэль. Напрыклад, убачыла льняныя ніткі і вырашыла: будзе такі касцюм. У працэсе вязкі фантазірую, штосьці мяняю. Бывае, што ідэя новай мадэлі выношваецца доўга, асабліва старанна выбіраю ўзор вязкі. І яшчэ, я ніколі не вяжу па выкрайках, чарцяжах, сама шыю добра, таму прыкладна ўяўляю, што і як атрымаецца.

**— Ці чэрпаеце ідэі з іншых крыніц (з часопісаў і г.д.)?**

— Так, я сачу за навінкамі ў часопісах, але бяру з іх не мадэль, а толькі схему ўзору, далей падключаю сваю творчасць.

**— Якія мадэлі, на ваш погляд, лепш за ўсё атрымліваюцца – світэры, спадніцы і г.д.?**

— Тое, што я вяжу, шыю, мне ўсё падабаецца. Бо я для сябе любімай гэта раблю (смяецца). Як мне здаецца, у мяне ўсе мадэлі атрымліваюцца аднолькава добра, у кожную з іх я ўкладваю сваю душу і пакуль не дасягну таго выніку, якога хачу, рэч не закончу.

**— А ці даўно вы вяжаце?**

— Я стала вязаць яшчэ ў школе, гадоў у 12, таму мой стаж складае ўжо больш за 10 гадоў. Пачынала з больш простых рэчаў – сурвэтачак розных, потым перайшла да больш аб'ёмных і сур'ёзных.

**– Ала, для вас вязанне – гэта... Прадоўжыце фразу.**

— Гэта стыль жыцця. Бо вязаннем занята практычна асноўная частка майго вольнага часу. Я не займаюся гэтым толькі тады, калі няма настрою. Хаця існуе парадокс: калі я злая, вяжу хутчэй. Прычым усім кажу: калі б я ўмела вязаць нагамі, то паспела б зрабіць нашмат больш. А то нейк не паспяваю рэалізаваць у жыццё ўсе свае задумы.

**— Вопыт свой перадаеце каму-небудзь?**

— Дзялюся ім з задавальненнем з тымі, хто зацікавіўся вязаннем.

**— Якія вашы прагнозы на тое, што будзе модным у гэтым зімнім сезоне?**

— Я лічу, што не варта прытрымлівацца нейкіх строгіх канонаў, якія дыктуе мода. Проста трэба насіць тое, што хочацца, што падабаецца, у чым добра сябе адчуваеш. Мы раней з мамай спрачаліся, яна не магла пагадзіцца з вялікімі вырезамі маіх мадэляў, з шырокімі рукавамі. Цяпер прывыкла, і ёй вельмі падабаецца тое, што я раблю.

P.S. Каго я гэтай інфармацыяй зацікавіла, падшыйце падшыўку часопіса "Ксюша" (№8 2002 г., №№1, 2 2003 г.) і пераканайцеся самі, што Ала – сапраўды майстрыха. Не выключана, што вы самі захочаце займець у сваім гардэробе рэч, падобную на тую, якая ёсць у Алы Загорскай. Тады бярыце ў рукі ніткі, пруткі ці кручок і прымайцеся за работу.

**Галіна АНТОНАВА.**

## Парады ад Рэгіяна



• Белы след, што з'явіўся на паліраванай паверхні мэблі ад таго, што на яе паставілі гарачы прадмет, можна выдаліць, працершы яго спіртам з алеем. Церці трэба чыстай суконнай анучкай кругападобнымі рухамі пакуль пляма не знікне.

• **Малако і тлушч не варта захоўваць у посудзе з пластмасы. Лепш за ўсё для гэтага прыгодны посуд з фаянсу, керамікі ці цёмнага шкла.**

• Мыць вокны з мылам нельга, яно ўтварае на шкле плёнку, якая дрэнна праціраецца.

• **Эмаліраваную каструлю, у якой падгарэла ежа, нельга скрэбсці. Наліце ў яе вады з прымессю соды і пракіпяціце, пасля чаго страва, што падгарэла, лёгка адмыецца ад сценак.**

• Хрустальны посуд не мыйце ў гарачай вадзе, ад гэтага яна мутнее, пакрываецца сеткай дробных трэшчын. Пасля мыцця пратрыце суконнай анучкай з падсіненым сінькай крахмалам – яна будзе лепш блішчаць.

 

■ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС РЭГІЁНУ

# Жупраны Мацея Бурачка

**Заўважу адразу, што Жупраны самі па сабе заслугоўваюць таго, каб быць адзначанымі на гістарычным атласе рэгіёну. Ужо ў награвіраванай у 1613 годзе ў Амстэрдаме першай дакладнай карце Вялікага княства Літоўскага, выкананай гравёрам, картографам і друкаром Томашам Макоўскім, які ў пачатку XVII стагоддзя працаваў пры двары князёў Радзівілаў у Нясвіжы і кіраваў там друкарняй, Жупраны былі пазначаны як мястэчка Ашмянскага павета. Але гэта далёка не першае сведчанне аб Жупранах, бо гісторыя іх у пісьмовых крыніцах вядзецца з пачатку XV стагоддзя як цэнтр валасці ВКЛ.**

Давялося чуць версію і аб паходжанні назвы гэтага даўняга паселішча. Калісьці ў тых мясцінах раслі глухія непраходныя лясы, у якіх вадзілася шмат зубраў. Пасяліўся яны на балотах, таму мясцовыя жыхары ставілі на іх "зубраны". Потым гэта слова трансфармавалася ў "жупраны" і замацавалася ў назве вёскі. Цяжка сказаць, колькі тут праўды, затое ў далейшым гаворка пойдзе аб дакладных гістарычных фактах.

**У 1407 годзе прывілеем вялікага князя Вітаўта Жупраны былі аддадзены старасце віленскаму Войцеху Манівідавічу, якім належалі амаль стагоддзе, пакуль Манівідавічы не парадніліся шлюбам з магутным магнацкім родам Радзівілаў.** У пачатку XVI стагоддзя уладаром Жупранаў стаў сын Софіі Манівідавай і Мікалая Радзівіла Юрый Радзівіл. Пры Радзівілах, якія гаспадарылі ў Жупранах да пачатку XIX стагоддзя, у мястэчку каля 1550 года быў заснаваны касцёл, а ў канцы XVI стагоддзя – кальвінскі збор.

Як усім, хто пасяліўся на бойкім месцы, часцяком не шанцуе падчас розных перапрусаў (успомніце песню У. Мулявіна пра "Чырвоную ружу..."). Так было і з Жупранамі. Яны разбураліся войнамі ў сярэдзіне XVII стагоддзя, у 1702 годзе — у час Паўночнай вайны, у 1716 годзе — у ходзе выступленняў Тарнагродскай шляхецкай канфедэрацыі супраць караля Аўгуста II у Рэчы Паспалітай, у 1812 годзе – нашэсцем французаў. За год да вайны з напалеонаўскай арміяй Жупраны, якія з 1795 года былі ў складзе Расійскай імперыі, набыў граф Адам Чапскі. Вось тады, з сярэдзіны XIX стагоддзя, і перасякліся з Жупранамі жыццёвыя шляхі Францішка Багушэвіча, што дадало ім новую шырокую вядомасць, падобную купалаўскай Вязынцы на Маладзечаншчыне.

Вядома, што Францішак Бенядзікт Казіміравіч Багушэвіч нарадзіўся ў 1840 годзе ў фальварку Свіраны Віленскага павета (цяпер Літва) у сям'і збяднелага шляхціца. Маленства яго, як сведчыць у сваёй "Гісторыі беларускай літаратуры" (ч.І, 1989) знаёмы мне па студэнцкіх гадах прафесар Белдзяржуніверсітэта і паэт Алег Лойка, прайшло ў Кушлянах. Яго аддалі вучыцца ў Віленскую гімназію, і, можна меркаваць, што ён ніяк не мог мінаваць па дарозе туды Жупраны,




**У 1974 годзе на магіле Францішка Багушэвіча пастаўлена стэла з барэльефнай выявай паэта-дэмакрата.** Фота Яўгенії МАНЦЭВІЧ.

бо Лібава-Роменская чыгунка, па якой ён мог ездзіць тады і пазней цягніком у Вільню ад блізкай станцыі Солы, пралягла па тых мясцінах толькі ў 1873 годзе. Небагатае паходжанне вымушала самому прабіваць дарогу ў жыццё. Таму гімназію ў 1861 годзе Ф.Багушэвіч скончыў у ліку чатырох лепшых выпускнікоў. Больш таго: рыхтаваўся да паступлення на фізіка-матэматычны факультэт, а пажадаў у ліку нямногіх гімназістаў адначасова вывучаць і здаваць заканадаўства. Відаць, нейкае "шостае пачуццё" падказвала, што гэтыя веды могуць спатрэбіцца. У 1861 годзе ён стаў студэнтам Пецярбургскага універсітэта, але ўжо з 1 курса быў выключаны з яго за адмову прыняць новыя універсітэцкія правілы, што прыцяснялі студэнтаў.

**Змаганне супраць несправядлівасці і нацыянальнага ўціску праз два гады прывяло 23-гадовага Ф.Багушэвіча ў рады паўстанцаў 1863-1864 гадоў. У Жупранах да нашага часу можна пачуць легенду пра камень на былой базарнай плошчы, на якім нібыта выступаў перад жупранцамі малады Ф.Багушэвіч незадоўга да паўстання.** У адным з баёў ён быў паранены, а пасля паражэння паўстання, каб пазбегнуць рэпрэсій за ўдзел у ім, вымушаны тайна жыць пад Беластокам, у Вільні, потым перабрацца на Украіну. Вось тады яму і спатрэбіліся веды па заканадаўству, добраахвотна набытыя ў гімназіі. З парады Яна Карловіча –польскага лінгвіста, этнографа, фальклярыста і музыказнаўцы, акадэміка Кракаўскай акадэміі ведаў, які потым у 1871-1882 гадах працаваў у Лідскім павеце, а таксама в.Вішнеў Свянцянскага павета і сябраваў з Ф.Багушэвічам, — былы паўстанец паступіў у Нежынскі юрыдычны ліцэй, які скончыў у 1868 годзе. Некалькі разоў ён змяніў месца працы і жыхарства на Чарнігаўшчыне, потым на два гады з'ехаў у Валагодскую губерню, а ў 1872 годзе зноў вярнуўся на Украіну і на 10 гадоў нарэшце асеў у Канатопе. Відаць, адыграла ролю, што там ён сустрэў спадарожніцу жыцця і ажаніўся з мінчанкай Габрыэлай Шклёнік, а потым з'явіліся на свет дачка Канстанцыя і сын Томаш-Вільгельм.

Відаць па ўсім, Ф.Багушэвіч быў надрэнным юрыстам і судовым чыноўнікам, аб чым сведчыць паспяховы рост па службе ад калежскага да надворнага саветніка і ўзнагароджанне яго ў 1883-1884 гадах ордэнамі святога Станіслава і святой Ганны 3-й ступені. Між тым усё гэта ніяк не магло прыглушыць боль душы аб родных мясцінах, ад якіх ён быў адарваны ўжо 20 год. Таму, як толькі ў 1884 годзе выйшла амністыя паўстанцам, Ф.Багушэвіч падаўся на радзіму і стаў працаваць адвакатам у акруговым судзе ў Вільні, дзе старанна абараняў інтарэсы простага люду.

Між тым, магло стацца так, што ніхто, акрамя родзічаў і тых сялян, гарадскіх беднякоў, каму ён шчыра і добра дапамог у судовай цяжбе, і не запомніў бы надоўга Ф.Багушэвіча, каб не 1891 год, калі нечакана з'явіўся друкаваны ў Кракаве зборнік вершаў Мацея Бурачка "Дудка беларуская". Словы аўтара ў прадмове: "Ці ж ужо нам канешне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседзкую мову, але найперш трэба знаць сваю... **Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!", як бліскавіца, асвяцілі цёмнае над Беларуссю неба нацыянальна-культурнага прыгнёту і твары ўсіх тых, хто з болю думаў аб будучым сваёй краіны.**

Гэта быў вялікі грамадзянскі подзвіг Францішка Багушэвіча, а менавіта ён быў па матывах канспірацыі за псеўданімам Мацей Бурачок, заявіць такое, калі ўсе правячыя дзяржаўныя колы кіраваліся па гэтым пытанні іншага зместу цынічнай інструкцыяй былога галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю М.Мураўёва. "У Паўночна-Заходнім краі, — указваў гэты душыцель вызваленчага руху беларускага, польскага і літоўскага народаў, празваны за жорсткасць "вешальнікам", — так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто, бо, калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго допусціць нельга".

Кніжка была надрукавана за свой кошт у Кракаве лацінскім шрыфтам (у бібліятэцы аўтара ёсць яе факсімільнае выданне) і на першы погляд успрымаецца як напісаная на польскай мове. Але кожны, хто мог чытаць, адразу адчуваў подых чысцюткай беларускай мовы. Вось хоць бы гэтыя радкі з вершыка "Prauda":

Oj, Bozaz moi Boza, nasztoz ja radziusia?!..

Oj ci nia na hetaz, kab czuc jak zwjakajuc

Lancuhi na ludcach, szto z chat uciakajuc...

Зразумела, што такое адкрытае выказванне думак не маглі не заўважыць царскія ўлады. Адразу з'явіўся дакумент "О возбуждении судебного преследования против Ф.Богушевича, автора сборника "Дудка беларуская", у якім гаварылася, што "стихотворения возбуждают резкую и ожесточенную вражду не только к отдельным представителям власти, но и вообще ко всему правящему классу". Гэта кваліфікавалася, як "преступное деяние, предусмотренное п.6 ст.129 "Уголовного уложения". Асобным радком пад гэты артыкул падводзіўся верш "Бог не роўна дзеле", у якім "резко противопоставляют неимущую часть населения классу богачей и намеренно внушают бедняку, что его тяжелый труд уходит на содержание притесняющего его господствующего класса".

**Пасля "Дудкі беларускай" Ф.Багушэвічам быў падрыхтаваны да друку зборнік празаічных апавяданняў "Беларускія расказы", які да выхаду ў свет быў ужо неўспрыняты ўладамі.** Вось аб чым сведчаць архіўныя дакументы, у прыватнасці "Отношение Виленского отдельного цензора по внутренней цензуре Главного управления по делам печати за №67 по поводу сб. Ф.Богушевича "Белорусския рассказы" от 16 марта 1899 года: "Виленская губернская типография доставила рукопись для разрешения к печати на белорусском наречии под заглавием "Белорусские рассказы Бурачка". Ввиду вопроса, не кроется ли в такого рода сочинениях тенденция, кроме "малорусской", создать еще "белорусскую литературу" и таким образом разбить и ослабить литературное и национальное единство, и вследствие этого и политическое могущество русского народа, имею честь почтить меня уведомлением, может ли она быть дозволена к напечатанию". Зборнік, зразумела, быў забаронены цэнзурай і дасюль не адшуканы.

Вышэйзгаданы дакумент датаваны за год і месяц да смерці Ф.Багушэвіча, калі ён у 1898 годзе па стану здароўя пакінуў службу ў Вільні і перабраўся ў Кушляны. Ды якое здароўе можа вытрымаць папярэднія блуканні па Украіне і Расіі і ўціск уладаў, калі ён ступіў на літаратурны шлях, дадаўшы сюды яшчэ забарону і зборніка вершаў "Смык беларускі" (1894)?!

**Ф.Багушэвіч памёр у сваёй сядзібе ў Кушлянах 15 красавіка 1900 года. Уразумеўшыя, кім(!) на самой справе быў іх зямляк, мясцовыя кушлянскія мужыкі на сваіх плячах пранеслі цела нябожчыка 14 кіламетраў да Жупран, дзе і цяпер знаходзіцца яго магіла.** Сяляне на сваім вянку напісалі: "Прыяцелю люду дзеравенскага" і на магілу паклалі дудку і скрыпку са смыкам. У саміх Кушлянах у той жа год на вялікім валуне, пад якім Ф.Багушэвіч хаваў свае падцэнзурныя вершы, яго сябры высеклі мемарыяльны надпіс "Pamеci Macieja Buraczka 1990 г.". Захаваўся там да нашага часу дом, у якім жыў Ф.Багушэвіч.

Паводле слоў нашага гісторыка літаратуры Максіма Гарэцкага, Багушэвіч – першы ўсенародны беларускі прававдыр і першы беларускі паэт-рэвалюцыянер, які займае паважнае месца ў сусветнай паэзіі.

Ф.Багушэвічу, таму, хто адзін з першых у нашай краіне сваім спаконвечным матчыным словам зрываў пячатку маўчання з вуснаў ледзь не анямелага народа, не давялося сустрэць XX стагоддзе, якое для яго родных мясцін, як і ўсёй Беларусі, сталася вельмі няпростым.

Жупраны, у якіх напрыканцы XIX стагоддзя налічвалася 57 двароў і 284 жыхары, былі касцёл, капліца, млын і тартак, у новым стагоддзі не раз пераходзілі з рук у рукі: ад царскіх чыноўнікаў да бальшавікоў, ад амаль 30-гадовага польскага панавання да саветаў. Зведалі яны наступствы дзвюх сусветных войнаў, апошняя з якіх пакінула асабліва глыбокі рубец. Незадоўга да вызвалення нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі ў Жупранах у ліпені 1944 года 49 двароў і загубілі 45 жыхароў. Ды і пасляваенныя гады з іх прымусовай калектывізацыяй і іншымі навацыямі не назавеш надта шчаслівымі.

**Між тым светлае імя Ф.Багушэвіча заўсёды заставалася ў глыбокай павазе. У 1974 годзе на яго магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай паэта-дэмакрата (архітэктар К.Асадаў, скульптары В.Даненкаў і В.Пятроў), яго імя носіць мясцовы калгас.** У велічным Петрапаўлаўскім касцёле, будаўніцтва якога закончылася ў 1890-я гады, і, кажуць, не без дапамогі Ф.Багушэвіча, злева ад ўваходу ваш позірк прыцягне белая мармуровая пліта з надпісам "Францішку Багушэвічу, 1840-1900, прыяцелі".

Наступіла ўжо XXI стагоддзе, а словы Мацея Бурачка "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..." застаюцца надзённымі.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

# Упершыню ў гісторыі

## Смаргонскі клуб выканаў задачу сезона, заняўшы трэцяе прызавое месца ў чэмпіянаце першай лігі

**У год святкаванняў 500-годдзя горада каманда прадэманстравала найлепшы вынік у гісторыі смаргонскага футбола. Балельшчыкі шчыльна запаўнялі трыбуны прыгажуна-стадыёна, радуючыся ўпэўненай гульні сваіх любімых футбалістаў супраць любога калектыву першай лігі, а потым нецярпліва чакалі навіны з выязных сустрэч.**

Пасля першага круга смаргонцы знаходзіліся ў шчыльнай кампаніі пяці прэтэндэнтаў на трэцяе месца, адстаючы ад яго на 6 ачкоў. Другі круг стаў бенефісам калектыву. Найбольш важнымі былі перамогі над асноўнымі канкурэнтамі — "Ведрычам-97", "Гранітам" і ЗЛіНам. У першым крузе ў матчах з імі было набрана толькі 1 ачко.

Пасля непрыемнага паражэння ў Бярозе 5 ліпеня каманда правяла 18 матчаў у чэмпіянаце. На гэтым адрэзку было 11 перамог, 5 нічыіх, 1 паражэнне, розніца мячоў 29-11.

Кубкавае паражэнне ў жніўні ад маладзечанцаў трэба прызнаць адносна выпадковым.

Чэмпіянатнае паражэнне ў верасні ад віцяблян было не надта заканамерным: па меркаваннях балельшчыкаў, яго абумовіла дрэннае суддзейства. Дзеля справядлівасці варта заззначыць, што скардзіліся на суддзейства і некаторыя каманды, што прыязджалі ў Смаргонь.

Пасля гульні з "Лакаматывам" былі ўсталяваны рэкордныя для "Смаргоні" цадчас выступленняў у першай лізе статыстычныя серыі: 6 перамог (розніца мячоў 11-1) і 9 матчаў без паражэнняў (розніца мячоў 14-2). Апошняя серыя не скончылася, можа быць працягнута ў наступным сезоне. Таксама ў другім крузе ўсталявана рэкордная серыя з 8 матчаў з забітымі галамі і паўторана ўсталяваная мінулай вясною серыя з 4 матчаў без прапушчаных галоў.



Матчы ў Смаргоні заўсёды збіралі поўны стадыён. Фота з сайта www.fcmolodechno2000.com

### Статыстыка па гульцах

**Сёлета ў чэмпіянаце ў складзе "Смаргоні" гулялі і забівалі наступныя футбалісты.**

Матчы: Курак – 30; Валавік, Карасёў – па 28; Грабаздзін, Дзігілевіч – па 27; Судзін – 26; Кукалевіч – 25; Трындзюк, Шляхавой (-21 – гэта значыць: варатар прапусціў 21 гол) – па 24; Тарасаў – 21; Дукса, Шырабокаў – па 20; Сінічын – 15; Кухлей, Мяць – па 14; Кашкар – 12; Давідовіч, Мазалоўскі – па 11; Кітурка – 10; Гірко – 7; Жачко, Хіманыч (-7) – па 6; Казлоў – 4; Іваноў – 3; Ганчароў – 2; Галаўнёў (-1) – 1.

Галы: Валавік – 9; Карасёў – 8; Грабаздзін – 7; Кухлей – 6; Тарасаў – 3; Гірко, Шырабокаў – па 2; Іваноў, Казлоў, Кітурка, Курак, Мазалоўскі, Судзін, Трындзюк, Цвяцінскі (Дынама-Юні, аўтагол), Загавалка (Лакаматыў, аўтагол), Клімёнак (Ведрыч-97, аўтагол) – па 1.

За два гады ў першай лізе найбольш гулялі: Курак – 55 матчаў; Дукса – 48; Давідовіч, Шляхавой – па 41; Дзігілевіч – 35. Найбольш забілі: Валавік – 9 галоў; Карасёў – 8; Грабаздзін – 7; Кухлей, Налівайка – па 6; Казлоў – 5.

### Выніковая табліца чэмпіянату першай лігі

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | МТЗ-РІПА | 0:0 2:1 | 22 | 4 | 4 | 63-15 | 70 |
| 2. | Лакаматыў (В) | 1:2 0:1 | 22 | 4 | 4 | 57-21 | 70 |
| 3. | Смаргонь | ###### | 17 | 7 | 6 | 47-20 | 58 |
| 4. | Ведрыч-97 | 0:1 3:0 | 16 | 5 | 9 | 52-29 | 53 |
| 5. | Граніт | 2:0 0:2 | 14 | 9 | 7 | 34-27 | 51 |
| 6. | ЗЛіН | 2:1 1:1 | 14 | 6 | 10 | 47-38 | 48 |
| 7. | Хімік | 1:1 1:1 | 13 | 7 | 10 | 42-39 | 46 |
| 8. | Ліда | 2:0 2:1 | 13 | 4 | 13 | 45-35 | 43 |
| 9. | Тарпеда-Кадз. | 2:2 0:1 | 11 | 9 | 10 | 37-37 | 42 |
| 10. | Камунальнік | 1:1 1:0 | 11 | 9 | 10 | 37-39 | 42 |
| 11. | Днепр-ДЮСШ | 5:0 4:2 | 8 | 5 | 17 | 32-52 | 29 |
| 12. | Дынама-Юні | 5:0 3:1 | 7 | 6 | 17 | 27-60 | 27 |
| 13. | Вертыкаль | 1:0 1:0 | 7 | 6 | 17 | 22-44 | 27 |
| 14. | Бяроза | 2:0 0:1 | 6 | 8 | 16 | 17-44 | 26 |
| 15. | Нёман | 1:0 0:0 | 5 | 5 | 20 | 26-54 | 20 |
| 16. | Пінск-900 | 3:0 1:0 | 5 | 4 | 21 | 28-59 | 19 |

**Адразу пасля назваў каманд даюцца вынікі матчаў "Смаргоні" супраць іх (спачатку – дамашнія, потым – на выездзе).**
**Бамбардзіры: Кузьмянок (МТЗ-РІПА) – 24; Савельеў (ЗЛІН) – 20; Калодзін (Лакаматыў) – 16.**
**Згодна з рэгламентам, пры роўнасці набраных ачкоў будзе праведзены дадатковы матч за першае месца паміж МТЗ-РІПА і "Лакаматывам".**

### Гістарычны шлях

Ёсць добрая нагода ўспомніць пра ўсе выступленні смаргонскай каманды ў нацыянальных чэмпіянатах. Распачаўшы пад назвай "Станкабудаўнік" з другога па рангу дывізіёна, яна не вытрымала канкурэнцыі, і ў хуткім часе перастала існаваць, ужо называючыся проста "Смаргонню". Але праз чатыры гады пасля перамогі ў абласным чэмпіянаце вялікі футбол вярнуўся ў горад. З таго часу з кожным сезонам клуб выступаў усё лепш і лепш, урэшце падабраўшыся да ганку вышэйшай лігі. Прычым спыняцца на гэтым ні кіраўніцтва раёна і клуба, ні галоўны трэнер Уладзімір Уткін не збіраюцца.

У ніжэйпрыведзенай табліцы першы слупок утрымлівае гады чэмпіянатаў з удзелам смаргонскай каманды, другі – агульнае месца сярод усіх каманд краіны, трэці – месца ў сваёй лізе.

| | | |
|---|---|---|
| 1992-вясна | 32 | 16 – Д2 |
| 1992/93 | 33 | 16 – Д2 |
| 1993/94 | 48 | 17 – Д3 |
| 1998 | 54-55 | 12 – гр.Д3 |
| 1999 | 43-44 | 6 – гр.Д3 |
| 2000 | 36 | 4 – Д3 |
| 2001 | 31 | 2 – Д3 |
| 2002 | 28 | 14 – Д2 |
| 2003 | 19 | 3 – Д2 |

Умоўныя абазначэнні: Д2 – цяперашняя першая ліга, Д3 – цяперашняя другая ліга, гр.Д3 – адна з двух існаваўшых тады груп другой лігі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ГІРАВЫ СПОРТ

**ВАЛОЖЫН. Ігар Лоўчы заняў трэцяе месца ў катэгорыі да 70 кг на чэмпіянаце краіны, які прайшоў у Мінску. Тым самым 21-гадовы ваеннаслужачы выканаў нарматыў майстара спорту.**

На спаборніцтвах залік вёўся па суме рыўка адной гіры кожнай рукой і штуршка двух гіраў адначасова. Вага снарада 24 кг.

■ ПЛАВАННЕ

**МАЛАДЗЕЧНА. На дамашнім Кубку вобласці каманда гаспадароў заняла другое месца. Шмат хто з маладзечанцаў стаў пераможцам на асобных дыстанцыях.**

Чатыры перамогі ў Анастасіі Лях (50 м, 100 м і 200 м брасам, 200 м комплексам). Дзве — у Віталя Барташэвіча (50 м і 100 м брасам) і Яўгеніі Ламакі (400 м і 800 м вольным). Па адной перамозе ў Дзяніса Крывецкага (100 м вольным), Аляксея Шчэрбы (400 м вольным), Веранікі Бурсевіч (400 м комплексам).

Іх рыхтавалі трэнеры КДЮСШ Уладзіслаў Антонаў, Людміла Крывецкая, Аляксандр Склокін, Арнольд Караў, Алена Рудкоўская.

■ МІНІ-ФУТБОЛ, ЮНАКІ

**МАЛАДЗЕЧНА. Шэсць каманд 1993 і 1994 г.н. у адзін круг згулялі ў зале ЗМК.**

Першае месца ў сталічнай СДЮШАР-5, другое месца за смаргонскай ДЮСШ (трэнер Іван Багдасар'ян), трэцяе месца пакінулі сабе выхаванцы мясцовай ДЮСШ (трэнер Віталь Казяк). У складах прадстаўнікоў рэгіёну вылучаліся смаргонец Арцём Канапацкі і маладзечанец Ілья Байголаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДЗЮДО

### Выніковая паездка

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманда Мінскай вобласці пад кіраўніцтвам Вячаслава Дзеравянкі ездзіла ў нямецкі Мёнхенгладбах на міжнародны камандны турнір "Dax-Team Cup" сярод моладзі ва ўзросце да 20 гадоў. Там 2 лістапада сабраліся дванаццаць калектываў па шэсць удзельнікаў з чатырох краін.**

У складзе каманды вобласці, акрамя аднаго хлопца з Жодзіна, былі пяць маладзечанцаў. Гэта Аляксандр Мойса (60 кг), Раман Міцько (73 кг), Сяргей Мароз (81 кг), Максім Хітрык (90 кг), Антон Заянчкоўскі (звыш 90 кг).

Спачатку ў падгрупе яны сасупілі англічанам і перамаглі адну з нямецкіх дружын. Потым быў плэй-оф. У чвэрцьфінале былі мацнейшыя за галандцаў, у паўфінале – за другі нямецкі калектыў. У фінале зноў пацярпелі паражэнне ад тых жа брытанцаў.

Пасля спаборніцтваў яшчэ з'ездзілі ў Парыж пагуляць, атрымаць уражанні.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КОНКУРС

### Вызначыліся пераможцы

**У шостым туры атрымана 12 лістоў. Тром удзельнікам удалося правільна прадказаць 2 лікі. Толькі адзін з іх прадвызначыў яшчэ адзін зыход. Гэта Мар'ян Вянгроўскі з Астраўца, які становіцца пераможцам шостага тура. На яго рахунку ўжо была перамога ў туры, таму Мар'ян атрымае прыз ад "РГ": набор канцылярскіх прыналежнасцяў.**

Астатнія двое не адгадалі больш ніводнага зыходу. Гэта віляйчанін Аляксандр Вярбіцкі і Руслан Ліпскі з пасёлка Дружны Мядзельскага раёна.

Руслан становіцца пераможцам пятага тура, бо Артур Ліпскі не адгадаў ніводнага ліку.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

# Даўно на сваіх месцах

**Прайшоў апошні тур чэмпіянату краіны. На становішчы каманд рэгіёну ён ніяк адбіцца не мог – тыя даўно ўжо занялі свае законныя пазіцыі ў турнірных табліцах.**

### Вышэйшая ліга

**Дарыда – Маладзечна-2000 2:0 (1:0). 9 лістапада. 150 гледачоў. Суддзя Жукаў. Галы: Крот (23), Вярбіцкі (76).**

Склад: Жылкін – Афанасевіч (Ганчароў,24), Крывіцкі, Ляпета (Касцюк,46), Дрозд – Лявончык, Вышынскі, Альховік, Якімчук (Савіцкі,86) – Дараховіч, Хамутоўскі.

Выдалены Альховік на 87-й хвіліне.

Да перапынку маладзечанцы дзейнічалі дрэнна. Пасля яго каманда актывізавалася, футбалісты сталі больш актыўнымі. Так што гульня ў кожным з таймаў была рознай, а весь лік аднолькавы – па 0:1.

**09.11. Дынама (М) – БАТЭ 0:4, Славія – Тарпеда (Ж) 2:2, Лакаматыў – Нафтан 1:0.**

У "сярэбраным" матчы барысаўчане разграмілі дынамаўцаў, пакінуўшы ім толькі бронзавыя медалі. "Лакаматыву" яго перамога не дазволіла ўратавацца, бо "Дарыда" перамагла, а "Славія" згуляла ўнічыю.

### Першая ліга

**Хімік (Светлагорск) – Смаргонь 1:1 (0:0). 8 лістапада. 3000 гледачоў. Суддзя Лазнюха. Галы: Шалухін (53-пен); Валавік (88).**

Склад: Шляхавой – Курак, Сінічын, Судзін, Мяць – Тарасаў (Гірко,72), Дзігілевіч (Валавік,67), Карасёў, Грабаздзін – Кухлей (Дукса,55), Кітурка.

Смаргонцы зноў мелі складанасці з тым, каб увасобіць гульнявую перавагу ў забітыя галы. Напрыклад, Карасёў не паразіў пустыя вароты, а пасля далёкага ўдара Сінічына мяч ад перакладзіны адскочыў у спіну варатару і, на жаль, пакаціўся ў поле.

Урэшце прапусцілі з пенальці, і прыйшлося ратаваць хаця б адно ачко. Гэта ўдалося на апошніх хвілінах. На прастрэл Мяця злева ўдала на апярэджанні выскачыў Валавік.

### Дублёры

Маладзечанцы не паехалі да "Днепр-Трансмаша", за што атрымалі ад федэрацыі прыстойнае па ліку тэхнічнае паражэнне 0:3. Потым былі матчы з "Дынама" (Брэст) 0:10 дома і "Дарыдай" 0:4 на выездзе.

У выніку на рахунку каманды 1 перамога, 2 нічые, 27 паражэнняў, розніца мячоў 11-108, 5 ачкоў. Бліжэйшая ў табліцы "Зорка-ВА-БДУ" набрала 29 ачкоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

